№№71–72
(3610–3611)
8 мая 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# З Днём Перамогі, удзельнікі і ветэраны Вялікай Айчыннай вайны!

## 9 Мая

Пераможца-франтавік,
злазь, салдацік, з печы,
Па падворку страявым,
разгарнуўшы плечы,
Ты прайдзіся незнарок,
прыпячатваючы крок.
Потым ў шафу зазірні,
лепшае, што маеш,
Апрані, бо сёння ты
свята сустракаеш.
Ўзнагароды прышпілі,
няхай бачаць людзі,
Кулі ворага ў чые
мецiліся грудзі.
Франтавых сто грам прымі,
калі мала — дзвесце,
Толькі каб ўсё было
ў норме — чэсць па чэсці.
Будуць добра гаварыць
ў гэты дзень паўсюдна,
І на вуліцах і плошчах
будзе многалюдна.
Скажуць слова пра цябе,
пра тых, хто загінуў,
І пра тых, хто пра сябе
звестак не пакінуў.
Будуць кветкі, каравул
адстаіць як трэба,
І салют у гонар твой
размалюе неба.
Будуць людзі святкаваць
хораша, прыгожа.
Ты змахнеш слязу і скажаш:
— Дзякуй табе, Божа...

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**

*г.Слаўгарад.*




**БЕЛАРУСЬ—ЕС**

## Паслоў запрасілі

*“Усе амбасадары, акрэдытаваныя ў Беларусі, запрошаны на святочныя мерапрыемствы”,* — заявіў агенцтву “Інтэрфакс” начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС **Андрэй Савіных.** Прадстаўнік МЗС удакладніў, што прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса таксама запрошаны ў парламент, дзе Аляксандр Лукашэнка выступіць са штогадовым пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу.

У прадстаўніцтве Еўрасаюза ў Мінску агенцтву “Інтэрфакс-Захад” пацвердзілі, што кіраўнік прадстаўніцтва Майра Мора атрымала запрашэнне ў парламент, а таксама на афіцыйныя мерапрыемствы, якія пройдуць 9 Мая ў Мінску.

Як вядома, амбасадары краін ЕС толькі нядаўна, напрыканцы красавіка, вярнуліся ў Беларусь. Больш за месяц яны адсутнічалі ў Беларусі па прычыне абвастрэння адносін паміж Бруселем і Мінскам, выкліканага чарговымі санкцыямі Еўрасаюза супраць Беларусі.

**АФІЦЫЙНА**

## Спраўдзіцца — не спраўдзіцца?

*Сёння, 8 мая, Аляксандр Лукашэнка выступіць са штогадовым пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу. Як паведамляе сайт Палаты прадстаўнікоў, выступленне павінна пачацца ў 11.00.*

Нагадаем, першапачаткова планавалася, што Лукашэнка звернецца з пасланнем да народа і парламента 19 красавіка. Аднак за два дні да гэтага прэс-служба прэзідэнта аб’явіла аб пераносе мерапрыемства “на больш позні тэрмін” у сувязі з тым, што Лукашэнка адхіліў падрыхтаваны праект паслання і адправіў яго на дапрацоўку. Магчыма, на гэты раз кіраўнік дзяржавы хоча пазбегнуць казусаў, калі ягоныя словы спраўджваюцца з дакладнасцю да наадварот.

Такое, дарэчы, здарылася ў мінулым годзе. Той год пачынаўся цяжка, з вясны ў грамадзян і прадпрыемстваў узніклі праблемы з набыццём валюты, з прылаўкаў пачалі знікаць многія прадукты, цэны нібы ашалелі... Але Аляксандр Лукашэнка падчас паслання да парламента і народа заявіў: *“За першае паўгоддзе мы забудземся пра тое, што ў нас адбывалася і адбываецца зараз. Мы ведаем, што рабіць, мы выйдзем з гэтай сітуацыі, і выйдзем спакойна”.*

21 красавіка, у дзень, калі Аляксандр Лукашэнка гаварыў гэтыя словы, адзін долар каштаваў 3020 беларускіх рублёў. Пра такі курс сапраўды нам прыйшлося забыцца. Адпаведна прыйшлося забыцца і пра сярэдні заробак у 500 долараў, і пра былыя цэны. Цяжка сказаць, хто ў краіне перажыў гэта ўсё спакойна.

Яшчэ адзін момант з мінулагодняга прэзідэнцкага паслання, які быў, як кажуць, пальцам у неба, тычыўся самай гучнай справы апошніх гадоў — тэракта ў мінскім метро.

*“Слава Богу, што мы яго своечасова спынілі,* — сказаў Лукашэнка, маючы на ўвазе Дзмітрыя Канавалава. — *Як паказвае следства, заўтра было б яшчэ горш. І праваахоўныя органы выявілі гэта “горш”. Як мінімум тры выбухі рыхтаваліся. І былі б яшчэ больш цяжкімі, чым метро”.*

На самай справе ніякіх доказаў таго, што Дзмітрый Канавалаў рыхтаваў новыя выбухі, у судзе прадстаўлена не было. А словы пра “тры выбухі” ўсе пастараліся хуценька забыць, бо вельмі цяжка аказалася знайсці таго, хто ўвёў у зман Аляксандра Лукашэнку, а праз яго — грамадства.

**Алена НОВІКАВА.**

**СІТУАЦЫЯ**

# Неспакойны «Граніт»

Яшчэ пазаўчора інтэрнэт-сайты абляцела сенсацыя: больш за 400 працаўнікоў мікашэвіцкага “Граніта” падалі заявы на звальненне. Кіраўніцтва прадпрыемства нібыта спрабуе спыніць скандал і заявы не падпісвае...

Скажаце, такога не можа быць? На “Граніце” ўсяго працуе пара тысяч чалавек, і цяжка ўявіць, што ў адзін момант пятая ці шостая частка людзей захацела звольніцца. Тым больш што Мікашэвічы — гэта не Мінск, дзе шмат вакансій. Акрамя “Граніта”, некалькіх дробных фірм у пасёлку, лічы, няма дзе ўладкавацца.

З другога боку, калі абвальнае звальненне мае месца, то ўзнікаюць іншыя думкі. Парадокс! Тых, хто хоча звольніцца, на “Граніце” ўтрымліваюць, а тых, хто хоча застацца працаваць, наадварот звальняюць прымусова. Так, 5 мая адміністрацыя не падоўжыла кантракт з Мікалаем Карышавым, намеснікам сакратара ствараемай пярвічкі незалежнага прафсаюза. Кіраўніка гэтай самай пярвічкі Алега Стахаевіча звольнілі яшчэ раней...

Няцяжка здагадацца, што адміністрацыя “Граніта” спрабавала такім рэпрэсіўным чынам спыніць масавы сыход рабочых з афіцыйнай прафсаюзнай арганізацыі ў незалежны прафсаюз. Ціск на рабочых і іх сем’і на нейкі час даў свае вынікі — працэс падачы заяў запаволіўся, але, паколькі матэрыяльнае становішча супрацоўнікаў не палепшылася, рабочыя сталі шукаць іншыя спосабы, каб пракарміць свае сем’і.

Не сакрэт, што падчас адпачынкаў рабочыя “Граніта” едуць не на курорты, а ў суседнюю Расію. Там у Выбаргу яны працуюць у кар’ерах, каб атрымаць прымальны для іх заробак — не менш за тысячу долараў. На сваім жа родным прадпрыемстве сёння яны могуць зарабіць у разы менш. Паколькі ў Расіі беларусаў ахвотна бяруць на працу, некаторыя з “гранітаўцаў” вырашылі з’ехаць туды на некалькі месяцаў і нават атрымалі адпаведныя дамоўленасці. Аднак роднае прадпрыемства іх не адпускае... Гэтую інфармацыю “Народнай Волі” неафіцыйна пацвердзілі некалькі працаўнікоў прадпрыемства. Але прасілі іх прозвішчы не называць.

Алег Стахаевіч, наадварот, агучвае і факты, і лічбы. Ён паведаміў “Народнай Волі”, што на сённяшні дзень колькасць жадаючых звольніцца дасягнула 430 чалавек. Па словах Стахаевіча, праблема толькі ў тым, што адміністрацыя не пагаджаецца падпісваць заявы аб звальненні без месячнай адпрацоўкі.

У аддзеле кадраў “Граніта” інфармацыю аб тым, што жадаючых звольніцца некалькі соцень, абвяргаюць. Але і дакладную лічбу заяў на звальненне назваць адмовіліся.

Эдуард Гаўрылковіч, галоўны інжынер прадпрыемства, які цяпер з’яўляецца выконваючым абавязкі дырэктара, паведаміў “Народнай Волі”, што ніякай сенсацыі на прадпрыемстве няма. Маўляў, заявы на звальненне падалі ўсяго 7 чалавек.

— *Гэта звычайная сезонная цякучка, калі людзі ў летні сезон з’язджаюць на будоўлі,* — гаворыць Эдуард Гаўрылковіч. — *Ад тых, хто працуе па добрааплачваемых спецыяльнасцях, увогуле такіх заяў няма. Тыя, хто падаў заявы, — гэта людзі, якія ўладкоўваюцца на працу, каб праседзець год, а потым звальняюцца. Я не магу зразумець, хто такі Стахаевіч і адкуль у яго звесткі пра масавыя звальненні. Ну, сыходзяць чалавек 50—70 за год, дык пра што гэта сведчыць?*

— **Рабочыя кажуць, што на вашым прадпрыемстве атрымліваюць 200—400 долараў, а ў Расіі за такую ж працу можна атрымаць тысячу...**

— *У нас кіроўца БелАЗа атрымаў заробак 8 мільёнаў 100 тысяч. Гэта тая ж тысяча долараў. Канешне, гэта самы высокі заробак. Тых, хто яго мае, адзінкі. У асноўным нашы людзі, калі добра працуюць, зарабляюць каля 5 мільёнаў. Зразумела, ёсць і тыя, хто зарабляе і па 200 долараў. Але сярэдні заробак на прадпрыемстве 400 долараў.*

Разбірацца з сітуацыяй на “Граніце” будзе старшыня афіцыйнага прафсаюза Леанід Козік. Ён атрымаў даручэнне ад Аляксандра Лукашэнкі паехаць на прадпрыемства, сустрэцца з працоўным калектывам, даведацца на месцы, што там і як. Пакуль Козік да Мікашэвічаў не даехаў.

А вось прадстаўнікі незалежнага прафсаюза малююць сітуацыю змрочнымі фарбамі. *“Проста адміністрацыя так і не змяніла сваё стаўленне да рабочых. Прадукцыя “Граніта” не мае праблем са збытам, таму прычын не падвышаць заробкі папросту няма. Але няма і жадання плаціць годныя заробкі. Навошта? Будуць і так працаваць, куды дзенуцца? Вось людзі і шукаюць лепшай долі за мяжой, каб выжыць у гэтых умовах”,* — кажа Алег Стахаевіч.

Дык ёсць сенсацыя ці няма? Хто бліжэй да аб’ектыўнасці — Алег Стахаевіч са сваімі прыхільнікамі ці кіраўніцтва прадпрыемства? На чыім баку праўда — стане вядома ў бліжэйшыя дні.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ЧУЛІ?**

## Заробкі растуць разам з цэнамі

*У Беларусі павысілі заробкі бюджэтнікам.*

Кіраўнік краіны ўзгадніў пастанову Савета міністраў №410 “Аб устанаўленні памеру тарыфнай стаўкі першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, што атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый” ад 4 мая 2012 года, у якой прадугледжана павышэнне з 1 мая тарыфнай стаўкі першага разраду з 200 тысяч да 210 тысяч беларускіх рублёў.

Таксама адначасова з павышэннем тарыфнай стаўкі першага разраду змяняюцца памеры карэкціруючых каэфіцыентаў, што прымяняюцца да тарыфных ставак (акладаў) работнікаў.

— Усе гэтыя павышэнні былі закладзены ў бюджэт, так што нічога незвычайнага тут няма, — кажа эканаміст **Сяргей ЧАЛЫ.** — Зараз мы вяртаемся прыкладна ў тую сітуацыю, калі бюджэтнікі могуць генерыраваць такія даходы. Той бонус, што краіна атрымлівае ў выніку дамоўленасцяў з Расіяй па нафце і газе (каля 2,5 мільярда долараў), бізнес на сабе амаль не зведаў. Для юрыдычных асоб не сталі больш таннымі ні электраэнергія, ні газ. Гэта азначае, што ўвесь бонус атрымала дзяржава, якая зараз такім вось чынам і пераразмяркоўвае павышэнне заробкаў бюджэтнікаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**НАДВОР’Е**

## На Дзень Перамогі — умерана цёпла

9 мая ноччу на большай частцы тэрыторыі краіны надвор’е яшчэ будуць вызначаць франтальныя раздзелы, а днём узмоцніцца ўплыў скандынаўскага антыцыклону. Ноччу ў цэнтральных і ўсходніх раёнах, днём толькі па ўсходзе краіны чакаюцца кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 7—14 градусаў, па захадзе - 3—6 градусаў вышэй за нуль.

Днём прагназуецца 15—22 градусы цяпла, па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях — да плюс 24 градусаў.

У Мінску 9 мая ноччу і раніцай пройдзе кароткачасовы дождж, магчыма навальніца, тэмпература паветра складзе плюс 7—9 градусаў. Днём будзе без істотных ападкаў, тэмпература паветра — плюс 15—17 градусаў.

**ПАМЯЦЬ**



*Учора споўнілася 13 гадоў, як быў учынены гвалт над экс-міністрам унутраных спраў генералам* ***Юрыем Мікалаевічам ЗАХАРАНКАМ.*** *Дэмакратычная грамадскасць краіны, праваабаронцы, замежныя палітыкі не раз ставілі перад беларускімі ўладамі пытанне аб суровым пакаранні вінаватых у трагедыі Захаранкі (як і ў трагедыях В.Ганчара, Д.Завадскага, А.Красоўскага), але, на жаль, гэтага пакуль не адбылося.*

*У сённяшнім нумары “Народнай Волі” пра слыннага сына Беларусі генерала Юрыя Захаранку апавядае яго былы падначалены — тагачасны кіраўнік прэс-цэнтра МУС Віктар Патапенка* ***(гл. 6—7 стар.)****.*

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

## Леанід Міхайлавіч і Генадзь Мікалаевіч, прабачце, калі ласка!

У “Народнай Волі” за 4 мая б.г. надрукаваны адказы шэрагу паважаных асоб на пытанне “Согласны ли вы с Владимиром Парфеновичем? Если да, то как изменить ситуацию?”.

Рэдакцыя ўдзячна ўсім за выкладзеныя пазіцыі. У той жа час інфармуем чытачоў аб недарэчнасці, якая адбылася падчас падрыхтоўкі падборкі да друку.

Вядома ж, доктар гістарычных навук, прафесар Л.Лыч і паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Г.Бураўкін далі інтэрв’ю на роднай, беларускай мове. І тое, што іх словы пададзены ў перакладзе на рускую мову, — гэта і ёсць недарэчнасць. Грамадскасць краіны ведае гэтых знакамітых людзей **як шчырых прыхільнікаў Беларушчыны.**

Леанід Міхайлавіч і Генадзь Мікалаевіч, прабачце, калі ласка! Добрага Вам здароўя, і спадзяёмся на далейшае сяброўства!

**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**

## Ці будзе новы крэдыт ад МВФ?

Зараз МВФ не вядзе перамоў з Беларуссю адносна новага крэдыту. Хаця шэраг дырэктараў фонду ўздымалі пытанне пра магчымасць новай праграмы для Беларусі.

Пра гэта паведаміў у Мінску старшы пастаянны прадстаўнік Міжнароднага валютнага фонду ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе **Марк Ален**. Па яго словах, якія перадае агенцтва “Інтэрфакс”, МВФ пачне перамовы, калі Беларусь будзе гатова да глыбокіх структурных рэформ.

Ален асобна падкрэсліў, што гэтыя рэформы мусяць быць падтрыманы на ўсіх узроўнях дзяржаўнай улады.

Па яго словах, да канца года ў Беларусь прыбудзе місія супрацоўнікаў МВФ. Але пакуль не плануецца, што яна будзе перамоўніцкай.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
8 МАЯ 2012 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# У клетцы

## У Беларусі тысячы людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі пазбаўлены многіх элементарных умоў жыцця

5 мая ва ўсім свеце адзначалі Міжнародны дзень барацьбы за правы інвалідаў. Адзначылі яго і ў Мінску мітынгам у парку Дружбы народаў. З чым выйшлі на вуліцу інваліды, назіраў карэспандэнт "Народнай Волі"

### Беларусь не далучылася...

Традыцыя бярэ пачатак з 1992 года, калі інваліды з 17 краін правялі першы агульнаеўрапейскі дзень барацьбы за роўныя правы і супраць дыскрымінацыі. Да голасу людзей з абмежаванымі магчымасцямі прыслухаліся ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый: 13 снежня 2006 года была прынята Канвенцыя ААН аб правах інвалідаў, якая паставіла за мэту даць інвалідам роўныя правы і магчымасці. З тае пары да міжнароднай канвенцыі далучыліся звыш 150 краін, уключаючы Папуа — Новую Гвінею — адну з самых бедных дзяржаў на планеце. Дакумент аб правах інвалідаў прынялі, падпісалі і ратыфікавалі ўсе еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку і нашыя суседзі — Літва, Латвія, Польшча, Расія, Украіна... І толькі ўлады Беларусі ўпёрліся рогам. Мо таму, што словазлучэнне "правы чалавека" для іх — як чырвоная ануча для быка?..

Як бы там ні было, але факт застаецца фактам: дзяржава паранейшаму ігнаруе волю 500 тысяч сваіх грамадзян, людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. 20 тысяч з іх — інваліды-калясачнікі... Якраз яны і гаварылі пра набалелае падчас мітынгу 5 мая, які праходзіў у сталічным парку Дружбы народаў...

### Хранічныя праблемы

Мітынг — як і было заяўлена арганізатарамі — не насіў палітычнага характару, а толькі ставіў на мэту звярнуць увагу грамадства на бядотнае становішча калясачнікаў, на праблемы так званага безбар'ернага асяроддзя, на дыскрымінацыю людзей з абмежаванымі магчымасцямі...

І ўсё ж (з гледзішча прамоў і лозунгаў, якія гучалі і прачытваліся) было відавочна: свае праблемы і свой боль Рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-калясачнікаў адрасуе не столькі грамадству, колькі ўладным структурам. Чаму? Ды хоць бы таму, што з моманту апошняга такога мітынгу (ён адбыўся пяць год таму) нічога істотнага ў вырашэнні праблем інвалідаў так і не здарылася. Ні ў сферы працаўладкавання, ні ў медыцынскім абслугоўванні, ні ў сферы адукацыі, ні ва ўсім астатнім... Больш таго, праблемы абвастрыліся і набылі хранічны характар — асабліва ў медыцынскай галіне, у заканадаўчай, у пытаннях прыстасаванасці інфраструктуры да патрэб інвалідаў-калясачнікаў. Не выконваюцца нават тыя нарматыўна-прававыя нормы, якія былі прыняты раней. Прыкладам, у мікраараёне "Каменная Горка" (Мінск) будуецца досыць шматкватэрных дамоў, магазінаў, паркoвачных стаянак, іншых аб'ектаў, але практычна нідзе вы не ўбачыце спецыяльных пандусаў для тых, хто прыкаваны да інваліднай каляскі. І так паўсюль, за рэдкім выключэннем. Замест таго каб адразу пабудаваць ганак-пандус, праекціроўшчыкі дамоў "будуюць" яго толькі на паперы... А забудоўшчыкі адно пакідаюць месца пад будучы пандус. Што ўжо казаць пра так званую "чырвоную кнопку" пры ўваходзе ў прадуктовы магазін ці там у аптэку... Нават калі чалавек і здолее выбрацца з кватэры, пераадолеўшы ўсе бар'еры "безбар'ернага асяроддзя", яму ніяк не свеціць патрапіць у тую ж краму, ці на рынак, ці ў суд — куды заўгодна. І ніякае сацыяльнае таксі тут не дапаможа, бо згаданая паслуга — як мёртваму прыпарка. Нават пасля вайны — у 50-х і 60-х гадах — інвалідам выдзяляліся прыстасаваныя пад іх магчымасці мотакаляскі (трохколкі), затым і легкавыя аўтамабілі з ручным кіраваннем. Цяпер варта быць вельмі багатым інвалідам, каб прыкупіць хоць якую калымагу з ручным кіраваннем. Машын на рынку досыць, а правоў у безабаронных інвалідаў — кот наплакаў... От і сядзяць людзі па хатах, па кватэрах — нявылазна, быццам якія недарэкі. А яны ж такія, як і ўсе астатнія людзі, з той адно розніцай, што абмежаваныя (хто больш, а хто менш) фізічна — але разумныя, адукаваныя, поўныя жадання быць карыснымі сабе і грамадству. Аднак што паробіш, калі адусюль прэ малапрыхаванае: асадзі назад!.. І застаецца чалавеку — альбо змірыцца з гаротным лёсам, векаваць у сваёй кватэрыклетцы (калі яна ёсць), альбо біцца за свае правы.







### Гэткія ж грамадзяне сваёй краіны

На мітынг 5 мая сабралася якіх 60—70 калясачнікаў — гэта якраз тыя людзі, якія гатовы дабівацца сваіх правоў і змагацца з дыскрымінацыяй не толькі дзеля сябе, але і дзеля іншых, тых, хто бязвылазна сядзіць у сваёй кватэры... Мітынг сабраў інвалідаў-калясачнікаў з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, тых, хто насуперак усяму імкнецца выбрацца з клеткі-турмы і пачувацца годна, як і належыць цывілізаваным людзям. Нездарма сімвалам-метафарай мітынгу ў абарону правоў інвалідаў-калясачнікаў арганізатары выбралі... чорнага коціка ў клетцы. Паверх той клеткі іранічна-балючае: "У мяне ўсё добра. Я жыву ў клетцы..." Але як таго дамагчыся, калі сама краіна не імкнецца стаць цывілізаванай, не жадае далучацца — пазіцыянуючы сябе ўсяму свету — да Канвенцыі аб правах інвалідаў? Як дамагчыся, калі чыноўнікі ўсіх узроўняў ігнаруюць правы самых безабаронных сваіх грамадзян? Толькі пару прыкладаў з мноства, якія былі агучаны 5 мая...

У сталічнай 11-й клініцы ёсць так званае спінальнае аддзяленне. Там лечацца, праходзяць рэабілітацыю хворыя, шмат інвалідаў з сур'ёзнымі парушэннямі. Яны не могуць самастойна перамяшчацца, ім патрабуюцца спецыяльныя ложкі, спецыяльныя прыбіральні і адпаведны догляд. А што ў наяўнасці? На ўсё аддзяленне толькі два туалеты... Ускараскацца чалавеку на той ложак — тое самае, што пакарыць Манблан. Пра эфектыўнае лячэнне і казаць не варта...

Далей. Мінскія актывісты Асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў наладзілі кантакты з галандскімі калегамі. Натуральна, прыходзіцца выязджаць за межы Беларусі. Але ўсякі раз беларускія калясачнікі выстойваюць пакутныя чэргі на нашым пагранічным пераходзе — нароўні з усімі. Ніякіх табе паслабленняў, ніякіх "па-за чаргой". Летась напісалі ліст у Дзяржпагранкамітэт з просьбай, каб інвалідаў прапускалі пазачаргова. І што? Адказ наступны: *"Дзяржпагранкамітэт прыняў да ведама вашу прапанову і будзе хадайнічаць перад Саветам міністраў аб уняcенні адпаведных дапаўненняў у Палажэнне аб прадастаўленні пазачарговага ўезду на тэрыторыю аўтадарожных пунктаў пропуску інвалідаў 1-й групы з парушэннем апорна-рухальнай сістэмы".* Падпісаў ліст начальнік упраўлення пагранкантролю Дзяржпагранкамітэта Іван Бандарэнка. На тым і ўсё... Да гэтага часу невядома, ці адпраўлена тое хадайніцтва ў Савет міністраў, ці разглядалася пытанне ва ўрадзе і ці ўвогуле нехта на самай справе меў клопат азадачыцца праблемай інвалідаў.

Прыкладна гэткая ж сітуацыя з заездам на самы вялікі ў Мінску рынак — Ждановіцкі. Пагадзінная аплата — як са звычайных аўтауладальнікаў. Ніякіх табе льгот, ніякіх спецпаркоўак... Ці то ў Амерыцы, ці то ў Еўропе — паўсюль — для інвалідаў спецыяльна прызначаныя паркoвачна-стаянaчныя месцы, на самай блізкай адлегласці ад уваходу ў гандлёвыя цэнтры, асобныя ліфты і, само сабою, адмысловыя пандусы. А ў нас?.. Рытарычнае пытанне, калі ўлічыць, што беларусаў у цывілізаваны свет ніхто не збіраецца весці... Што яно так, мала хто сумняваецца — асабліва ж інваліды-калясачнікі. Яны, можна сказаць, на сваёй шкуры і штодня адчуваюць "бацькоўскі" клопат дзяржавы, асабліва калі намерваюцца пакінуць сваю клетку...

Бабруйчанка Жанна Мальчук — інвалід-калясачнік з 35-гадовым стажам. У Бабруйску яшчэ прыкладна дзвесце грамадзян, якія не могуць пакінуць свае клеткі... А цяпер — увага: у слаўным горадзе Бабруйску сярод усіх інвалідаў-калясачнікаў толькі ў адной Жанны і ёсцека выратавальны пандус. Але пабудавалі яго не з ласкі дзяржаўнікаў, а з дапамогаю чулых людзей. Збіралі сродкі талакою — нехта аджыліў грошы на цэмент, нехта прывёз шчэбень... З усяго гарадскога чынавенства з разуменнем паставіліся да Жанны Мальчук толькі ў адміністрацыі Першамайскага раёна — непасрэдна спадар Цеплакоў. І яму жанчына бясконца ўдзячна. А вось старшыні гарвыканкама спадару Дзмітрыю Бонахаву дзякаваць няма за што, бо замест дапамогі прыходзілі фармальныя адпіскі. Па форме, канечне, — камар носу не падточыць, а па сутнасці — здзек. У адпаведнасці з артыкуламі 36 і 38 Кодэкса аб інвалідах, пандусы дазваляецца будаваць, калі ўхіл не перавышае 12 градусаў. Кватэра Жанны хоць і на першым паверсе, але завысока — вугал ад паверхні зямлі да балкона амаль 45 градусаў. Значыцца — асадзі назад! Урэшце зліталіся, далітакі дазвол на ўзвядзенне пандуса, але... на правах уласніка, значыцца, за свае кроўныя. І хоць на той пандус пайшлі ўсе свае грошы і пазычаныя ў людзей, справа была зроблена - 20-метровы пандус адчыніў клетку...

Інваліды-калясачнікі — гэткія ж грамадзяне сваёй краіны, як і ўсе астатнія, проста з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Яны хочуць і могуць працаваць, вучыцца, жыць паўнакроўна і быць шчаслівымі. Яны не просяць немагчымага, а толькі разумення суграмадзян, роўнага да сябе стаўлення і захавання тых правоў, якія прапісаны ў Канстытуцыі. На жаль, якраз многія артыкулы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь парушаюцца менавіта ў адносінах да інвалідаў. І гэтыя артыкулы былі пералічаны падчас зачытвання звароту (пісьмовага) інвалідаўкалясачнікаў да Аляксандра Лукашэнкі. Зварот перададуць у Адміністрацыю прэзідэнта, але што з таго атрымаецца — ведама аднаму Богу. Хаця — і без жартачкаў — яшчэ невядома, хто ёсць Бог на Беларусі...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Сяргея Каваленку просяць звярнуцца да Лукашэнкі

Віцебскага актывіста КХП—БНФ Сяргея Каваленку, асуджанага да 2 гадоў і 1 месяца пазбаўлення волі за парушэнне адбывання пакарання на "хатняй хіміі", прымушаюць напісаць прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі. Ад Каваленкі патрабуецца нямногае — прызнаць сваю віну.

Пра гэта "Народнай Волі" паведаміла жонка Сяргея Алена Каваленка.

"У пятніцу ў СІЗА на Валадарскага з Сяргеем бачылася маці, — расказала Алена. — Сяргей казаў, што ў СІЗА супраць яго перыядычна ладзяцца правакацыі. Да яго ў камеру падсаджваюць людзей, якія спрабуюць завязаць з ім бойку. Ён на правакацыі не паддаецца. Таксама Сяргей расказаў, што яму намякаюць на тое, каб ён напісаў прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі, прызнаўшы ўласную віну, маўляў, у гэтым выпадку ён можа хутчэй апынуцца на волі... Але Сяргей сваёй віны не прызнае і ніякага прашэння пісаць не будзе...

Днямі ўрачы з "Навінак", дзе па рашэнні суда Сяргей праходзіў комплексную псіхіятрычную экспертызу, павінны даць афіцыйнае заключэнне наконт яго стану здароўя. Але, як мне стала вядома з неафіцыйных размоў з супрацоўнікамі Дэпартамента выканання пакаранняў, Сяргей прызнаны псіхічна здаровым. Пасля таго як з'явіцца афіцыйнае заключэнне, стане вядома і дата разгляду касацыйнай скаргі ў Віцебскім абласным судзе на прысуд Сяргея. Дарэчы, цалкам верагодна, што ў хуткім часе Сяргея з мінскага СІЗА на Валадарскага перавядуць у віцебскі СІЗА, дзе муж і будзе чакаць разгляду касацыйнай скаргі".

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Госці пакінулі след

У панядзелак у венскім крымінальным судзе распачаўся судовы працэс над самым магутным чалавекам у аўстрыйскім спорце. Хайнц Юнгвірт 25 гадоў быў генеральным сакратаром Нацыянальнага алімпійскага камітэта, паважаным не толькі ў сваёй краіне, але і ў свеце чалавекам. А "пагарэў", як пішуць еўрапейскія СМІ, на сувязях з апошнім дыктатарам Еўропы.

Хайнцу Юнгвірту інкрымінуецца злоўжыванне службовым становішчам і карупцыя ў вялікіх памерах (паводле ацэнак аўдытараў, на некалькі мільёнаў еўра). Сярод шматлікіх эпізодаў фінансавых злачынстваў, якія будуць разглядацца на працэсе, — створаны алімпійскім камітэтам у банку Raiffeisen патаемны рахунак, з якога ў тым ліку аплачваўся шыкоўны адпачынак беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і яго світы ў Альпах у 2002 годзе. Копіі многіх рахункаў ужо апублікаваны. На сабраных дакументах — назвы фірмаў, гатэляў, авіякампаніі (чартарны рэйс Вена—Інсбрук), верталётнай кампаніі (гэтыя паслугі спатрэбіліся Аляксандру Лукашэнку пасля атрыманай траўмы, калі яго з горнага схілу даставілі да ўрача), ганарарныя чэкі за медыцынскія паслугі, аплата за гарналыжныя ўрокі для 11 прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі, рахунак на арэнду аўтобуса для 34 чалавек і за канцэрт папулярнага музыканта DJ Otzi...

З цягам часу скандал толькі набіраў абароты. Зусім нядаўна ў рукі экспертам трапілі рахункі на аплату пакояў у пяцізоркавым гатэлі, дзе спыняўся Лукашэнка, для васьмі жанчын, якія не ўваходзілі ў спіс высокай дэлегацыі. Хто замаўляў гэтых дам для беларускай дэлегацыі, разбіралася следства.

Як піша аўстрыйскае выданне "Kurier", працэс у венскім крымінальным судзе працягнецца тры дні, пасля чаго і будзе вынесены прысуд. Размова ідзе не толькі пра пазбаўленне свабоды для Юнгвірта, але і пра канфіскацыю маёмасці, на чым настойвае пракуратура.

Беларускі бок ніяк не каментуе гэты скандал, хаця цягнецца ён ужо не адзін год.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

## Выкрадалі дарагія аўтамабілі

У Мінску міліцыя затрымала двух жыхароў Цверы, якія зараблялі ў Беларусі ўгонам дарагіх аўтамабіляў.

У Мінск яны нагледзелі ў двары дома №4 па вуліцы Бельскага аўтамабіль "Таёта-Лэнд Крузер-Прада" 2010 года выпуску, кошт якой складае амаль 70 тысяч долараў. Ноччу гэты аўтамабіль быў выкрадзены. Аднак вывезці машыну за межы Беларусі зламыснікі не змаглі: адзін з іх быў затрыманы аперАтыўнікамі за рулём выкрадзенага пазадарожніка на трасе Мінск—Гродна, другога пасля пераследу па МКАД супрацоўнікі ДАІ затрымалі на вуліцы Рафіева ў Мінску.

ЧУЛІ?

## У Пінскай дыяцэзіі новы ардынарый



20 мая Мітрапаліт Кандрусевіч развітаецца з супольнасцю Пінскай дыяцэзіі.

Сам Мітрапаліт і ўзначаліць развітальную Імшу 20 мая ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Пінску. Ад 30 чэрвеня 2011 г. іерарх з'яўляўся Апостальскім Адміністратарам ad nutum Sanctae Sedis Пінскай дыяцэзіі.

3 мая 2012 г. ардынарыем Пінскай дыяцэзіі быў прызначаны біскуп Антоній Дзям'янка.

**Любоў ЛУНЁВА.**

УВАГА!

## Затор на мяжы

*На мяжы Польшчы і Беларусі 8, 10 і 11 мая магчымы чэргі. На гэтыя дні польскія мытнікі запланавалі страйк.*

Пра гэта паведаміў прэс-сакратар Дзяржпагранкамітэта Беларусі **Аляксандр Цішчанка.**

Чакаецца, што 8 мая забастоўка будзе доўжыцца з 10.00 да 12.00, 10 мая — з 10.00 да 22.00. 11 мая мытнікі збіраюцца страйкаваць з 7.00. Пра час заканчэння гэтай забастоўкі пакуль не паведамляецца.

*"Дзяржпагранкамітэт рэкамендуе ўсім, хто ў гэтыя дні збіраўся перасякаць мяжу, улічваць гэтую інфармацыю. Бо, як паказвае практыка, прапускная здольнасць у такі час рэзка зніжаецца",* — растлумачыў Аляксандр Цішчанка. Ён адзначыў, што трэба альбо рыхтавацца да чэрг, альбо ў гэтыя дні зусім не ехаць.

РЭДКІ ВЫПАДАК

# Паказальна пакараць!

## Слуцкія дэпутаты пакрыўдзіліся на мясцовую актывістку і патрабуюць ад яе 22 мільёны рублёў

Былая настаўніца, а цяпер пенсіянерка Зінаіда Цімошык у роспачы. Чацвёра дэпутатаў Слуцкага савета звярнуліся ў суд, каб спагнаць з яе агулам 22 мільёны рублёў. Такі нечаканы працяг атрымала гісторыя змагання мясцовых актывістаў за ўпарадкаванне старажытных могілак у цэнтры Слуцка.

А гісторыя гэтая пачалася яшчэ ў 2008 годзе. Зінаіда Цімошык працавала тады настаўніцай у вясковай школе пад Слуцкам. Туды прыехала пісьменніца Вольга Іпатава, прапанавала Зінаідзе паехаць у Слуцк, каб наведаць там магілу Альгерда Абуховіча...

*— Божа, калі я гэта ўсё ўбачыла, то адчула адначасова і абурэнне, і сорам. Амаль у цэнтры горада непралазныя джунглі — хмызняк, смецце, пустазелле вышэй за галаву, паваленыя помнікі... А могілкі ж гэтыя знакамітыя, гістарычныя. Там пачалі хаваць нябожчыкаў яшчэ ў XVI стагоддзі. Побач з могілкамі — мемарыял загінуўшым у часы Другой сусветнай вайны, і вось там прыбіраюць.*

Настаўніца напісала заяву ў Слуцкі райвыканкам, каб чыноўнікі зрабілі неабходныя захады для ўпарадкавання могілак, якія займаюць тэрыторыю 5,4 гектара. Пакуль цягнулася ліставанне, Зінаіда звязалася з мясцовымі актывістамі і разам яны хутка сабралі больш за тысячу подпісаў жыхароў з патрабаваннем вырашыць праблему. Не чакаючы, актывісты навялі парадак на магіле Альгерда Абуховіча і прылеглай тэрыторыі, дзе аказаліся магілы, датаваныя ХІХ стагоддзем. Людзі рабілі ўсё сваімі ўласнымі намаганнямі, у вольны час. А што ўлада? А як жа закон пра ўтрыманне месцаў пахавання памерлых?

Згодна з заканадаўчым актам, адказнасць за яго выкананне ўскладзена на жыллёва-камунальную гаспадарку. Аб тым, што закон парушаецца ў масавым парадку, сведчыць сітуацыя не толькі ў Слуцку. У сельскай мясцовасці старажытныя могілкі знаходзяцца ў заняпадзе. Не трэба далёка ад'язджаць ад Слуцка, каб убачыць, што творыцца на старадарожскіх, любанскіх, грозаўскіх могілках... І такую карціну можна назіраць па ўсёй краіне.

Зінаіда Цімошык ад пачатку дзейнічала ў рамках закона: яна хацела стварыць судовы прэцэдэнт і такім чынам абвергнуць прымаўку яшчэ савецкіх часоў, што з сістэмай змагацца бессэнсоўна. Для гэтага жанчына звярнулася ў суд з заявай на райвыканкам і ЖКГ. Натуральна, суд яна не выйграла, але ён прыняў прыватнае вызначэнне ў дачыненні міліцыі і ЖКГ аб тым, што тыя не выконваюць свае абавязкі па доглядзе за магіламі. Зінаіда ўзгадвае:

*— Пасля таго як мы звярнуліся ў грамадскую прыёмную Аляксандра Лукашэнкі, намеснік міністра ЖКГ нават даслаў падзяку за нашу працу. Але летась я прыйшла на могілкі і ўбачыла, што нічога так і не змянілася. Самае абуральнае, што там на магіле жонкі Напалеона-Орды Люцыны алкаголікі зрабілі прытон. Мясцовыя казалі, што яны паміж сабой называлі магілу "Кафэ ў графіні". У жніўні я пачала ліставанне з дэпутатамі. Кожнаму з 25 дэпутатаў даслала персанальнае запрашэнне на суботнік па добраўпарадкаванні могілак. Нарэшце, мяне запрасілі ў ЖКГ і спыталі, які патрэбны інвентар. Сказалі, што не маюць рыдлёвак — толькі граблі. Мы далі абвесткі пра суботнік, людзі прыехалі са сваімі рыдлёўкамі... Усё адбывалася 1 кастрычніка. Прыехалі трактары, мы ўзялі інструменты, і пачалася праца. Дэпутаты таксама ўдзельнічалі. Але на іх рыдлёўках былі зроблены персанальныя рамкі з прозвішчамі. Я тады яшчэ сказала, што гэта неяк нясціпла, навошта гэта было рабіць? Справа ж добраахвотная. Там жа адбыўся інцыдэнт, калі трактар паехаў і зламаў рыдлёўкі, шкло пакідалі на зямлю... Ды што пра гэта казаць... Але 10 лістапада мне раптам пагрукалі ў дзверы. Адчыніла — стаяць міліцыянеры. Сказалі, што не хапіла дзвюх казённых рыдлёвак. А потым паведамілі, што я нібыта абразіла двух дэпутатаў. Сказалі, што нехта на могілках усталяваў іхныя рыдлёўкі з тымі персанальнымі таблічкамі.*

25 лістапада Зінаіду Цімошык судзілі як парушальніцу Адміністрацыйнага кодэкса. Згодна з судовай пастановай, жанчына арганізавала ўстаноўку тых рыдлёвак і за гэта была пакарана штрафам у 700.000 рублёў. Зінаіда ўжо і забылася пра той выпадак, але 18 красавіка атрымала позву ў суд. Дэпутаты раптам вырашылі, што ім нанеслі маральныя страты. Адзін з іх — Сяргей Макараў — пакутаваў больш за трох сваіх калег. Ён ацаніў свой маральны ўрон у 7 мільёнаў рублёў. На два мільёны менш намагаюцца атрымаць Валянціна Ралько, Алег Казейка і Віктар Ражанец. Такім чынам, калі суд задаволіць іскі, агулам Зінаіда Цімошык павінна будзе заплаціць ім 22 мільёны рублёў.

Чаму ж гэтыя народныя абраннікі паўгода сядзелі моўчкі, а цяпер раптам прыгадалі, што пакутавалі? Можа, яны адчувалі такую невыносную пакуту, што не маглі сабрацца з сіламі і падаць іск на сённяшнюю пенсіянерку?

Сама Зінаіда лічыць, што падставай для пераследу стала публікацыя ў інтэрнэце.

*— Сітуацыя была б смешная, калі б не была такая сумная. На сайце "Беларускі партызан" была апублікавана гісторыя пра грамадзяніна Расіі, які жыў на вёсцы, але ў яго не было ніякіх сродкаў для існавання. Мясцовыя жыхары яго кармілі, дапамагалі, але і баяліся, бо чалавек меў сур'ёзную псіхічную хваробу і час ад часу кідаўся ў бойку з суседзямі. Мы звярталіся ў розныя ўстановы, каб вырашыць гэтую сітуацыю. Нарэшце, гісторыя дайшла да журналістаў. Вось мне і помсцяць за тое, што гісторыя стала вядома шырокаму колу карыстальнікаў інтэрнэта і выклікала рэзананс. Па крайняй меры, мне намякнулі пра гэта. Вось і з'явіліся гэтыя іскі.*

Як бы там ні было, але для пенсіянеркі 22 мільёны рублёў — грошы вялікія. Паўдзельнічалі мясцовыя дэпутаты ў добрай справе, але чым гэта скончыцца для жанчыны, якая рабіла гэтую справу не для сябе адной, невядома. Зінаіда непакоіцца: пакуль толькі чацвёра з 25 дэпутатаў хочуць праз суд спагнаць з яе грошы, а калі раптам усім захочацца? Ды з улікам інфляцыі могуць і сумы падвысіцца... Зноў талаку збіраць, толькі цяпер, каб адкупіцца ад народных абраннікаў?.. Ад тых, якія ў першую чаргу самі былі павінны арганізаваць грамадства і мясцовыя ўлады на навядзенне парадку на могілках.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 8 МАЯ 2012 г.

шасць упраўленняў з аддзеламі. Юрый Мікалаевіч падпарадкаваўся жаданням большасці і звярнуўся да асабовага складу міліцыі краіны. На старонках газеты "На страже" друкуецца яго заява: "Улічваючы маштабы і працягласць распаўсюджвання чутак пра будучую адстаўку з пасады міністра, афіцыйна заяўляю, што не бачу рэальнай падставы для добраахвотнага сыходу з пасады. Такі крок я расцаніў бы як слабавольнасць і здраду ў адносінах да тысяч маіх калег — работнікаў органаў і падраздзяленняў унутраных спраў. Таму, нягледзячы ні на што, разам з усім асабовым складам маю намер цвёрда працаваць у рамках няўхільнага выканання Канстытуцыі краіны па забеспячэнні парадку, абароне законных правоў і свабод грамадзян Беларусі".



Жонка Вольга Барысаўна з дачкамі і ўнукам.

## Прынцыповае разыходжанне

Адпаведных крокаў з боку Адміністрацыі прэзідэнта доўга чакаць не давялося. Літаральна праз дзень у актавай зале міністэрства дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман абвясціў аб звальненні з міліцыі першага намесніка міністра Валерыя Ізотава і намесніка Сяргея Рухлядзева. Іх абавязкі, па распараджэнні Аляксандра Лукашэнкі, пачалі выконваць адпаведна Валянцін Агалец і Іван Юркін.

Пасля таго як былі зачытаны ўказы па звальненні і прызначэнні, Юрый Мікалаевіч на правах гаспадара міністэрства звярнуўся да прысутных — начальнікаў глаўкаў і асобных падраздзяленняў. Ён выказаў словы падзякі Валерыю Ізотаву і Сяргею Рухлядзеву за тое, што яны падставілі плячо ў самыя цяжкія дні станаўлення новай сістэмы арганізацыйнай работы органаў унутраных спраў, потым звярнуў увагу прызначаных: "Калі я раней за хібы ў службе прымаў крытычныя ўдары на сябе, то цяпер буду жорстка ставіцца да намеснікаў — адказных за той ці іншы ўчастак працы".

Захаранка вельмі хваляваўся, яго рашучасць і напорыстасць у гаворцы гублялася за недакладнасцю слоў, было бачна, што ён разгублены. Усе зразумелі: звальненні і прызначэнні намеснікаў міністра былі зацверджаны без яго ведама, дзеля таго, каб перадаць ведамства пасля звальнення Захаранкі ў "надзейныя" рукі.

Разважанні паміж афіцэрамі цэнтральнага апарата Міністэрства ўнутраных спраў пра імгненную кадравую замену кіраўніцтва міліцэйскага ведамства былі розныя. Некаторыя цікавіліся асобай Юркіна — да прызначэння Іван Захаравіч выконваў абавязкі намесніка старшыні КДБ, іншыя разгадвалі прычыну разрыву сяброўскіх адносін паміж Захаранкам і Агальцом. Абодвух да нядаўняга часу можна было часта бачыць разам у будныя і выхадныя дні. Валянцін Сцяпанавіч, нягледзячы на ваенную выпраўку, быў абыходлівы і ўважлівы да людзей. Здавалася, што чалавек з такім характарам не здольны рабіць нешта благое. Аднак калі на працягу гадзіны-другой дайшлі чуткі пра тое, што "сяброўства" паміж кіраўнікамі міністэрства спынілася на прынцыповым падыходзе да выканання "любога даручэння прэзідэнта", прычына была разгадана: Захаранка разглядаў выкананне даручэнняў у межах Канстытуцыі і заканадаўства, а Агалец — згодна з загадам Галоўнакамандуючага. Гэта было яго перакананне, пра якое ён любіў часта гаварыць. *"Ведаеце, у чым ваша бяда?* — звяртаўся ён да падначаленых. — *Вы не можаце працаваць на начальніка. Я ўсё жыццё працую толькі на яго. Я не задумваюся, што мне начальнік сказаў, я выконваю. Да выдыху служу Яму і Айчыне. І ніякія пытанні не ўзнікаюць. Сярэдні селянін жыў добра таму, што працаваў на пана. Правільна ці не? І ніколі не задумваўся, што ён мудрэй за свайго гаспадара, ён проста рабіў сваю сялянскую справу. А ў нас "до хрена" халопаў, якія ходзяць панамі ў сваіх галовах, а справу, за якую адказваюць, даўно забыліся. Вось такі псіхалагічны дыскамфорт ёсць у нас. Калі мы яго не здымем, нам цяжка будзе дабівацца добрых вынікаў. Таму кожны павінен ведаць сваё месца і справу, працаваць на начальніка" (Філасофія працы пчалінай сям'і. —* **Аўтар** *).*

## Сюжэт не пойдзе ў эфір

...Панура-шэры восеньскі панядзелак 16 кастрычніка 1995 года распачаўся здымкамі ведамаснай тэлевізійнай групы ў рабочым кабінеце міністра ўнутраных спраў. Юрый Мікалаевіч Захаранка павітаўся з кожным за руку, дазволіў распакоўвацца і ўсталёўваць на штатывы відэакамеру і падсветку. Стрэлкі вялізнага насценнага гадзінніка з ціхім, адточаным ходам маятніка паказвалі дзесяць гадзін раніцы. У кабінет увайшоў амбасадар Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі спадар Кенет Яловіц. Ветлівая ўсмешка, працяжны поціск рук, і абодва спыніліся перад відэакамерай.

*Кенет Яловіц (сінхрон):* "Толькі дзякуючы мэтанакіраванай працы ў барацьбе са злачыннасцю Беларусь атрымала магчымасць навучыць кваліфікаваных спецыялістаў найноўшым метадам збору і замацавання рэчавых доказаў. Семінары цэнтра істотна паўплываюць на расследаванне крымінальных спраў у многіх краінах свету. Таму Кангрэс ЗША прыняў пастанову па фінансаванні міжнароднага цэнтра ў Мінску".

*Юрый Захаранка (сінхрон):* "Дзякуем ЗША, што яны выбралі Беларусь. Краіна стала першай з былых савецкіх рэспублік, дзе адкрыецца цэнтр па падрыхтоўцы спецыялістаў аператыўна-следчых служб. Па гэтай праграме, калі яна будзе цалкам рэалізавана, рэспубліка атрымае дапамогу, эквівалентную некальхім дзясяткам мільёнаў долараў".

Мы хуценька сабралі тэлевізійныя рэквізіты, выйшлі з кабінета міністра. Недзе на працягу двух-трох гадзін зрабілі мантаж відэасюжэта, і я сабраўся везці майстар-касету на тэлебачанне. Здалёк, на лесвіцы, заўважыў Захаранку. Ішоў ён павольна; бачна, быў вельмі заклапочаны. Я прыпыніўся, каб не турбаваць лішні раз міністра, дачакаўся, калі ён пайшоў па калідоры. Не ведаў я, магчыма, не ведаў і ён, што яго рабочы кабінет апячатаны, а ў прыёмнай чакалі работнікі Службы бяспекі прэзідэнта.

Я прыехаў на тэлебачанне, зайшоў да галоўнага рэдактара агенцтва тэлевізійных навін Уладзіміра Мартынава. Рукаемся, працягваю яму Betacam-касету, пачынаю расказваць сутнасць відэасюжэта. Валодзя нейкую хвіліну слухае, потым вяртае мне касету і гаворыць, што сюжэт не можа пайсці ў эфір, так як Захаранка пазбаўлены пасады міністра.

Шматгадовая служба ў міліцыі падказвала мне ўспрымаць і перапраўляць інфармацыю і ніколі не спрачацца з тым, хто яе паведамляе. Тэлефаную падначаленым, распытваю пра сітуацыю ў міністэрстве. "Была трывожная, — адказваюць мне. — Афіцэры стаялі на калідорах, пакуль Захаранка не выйшаў з будынка".



А маці, Ульяна Рыгораўна, ніяк не можа паверыць у тое, што адбылося з сынам...

## Страх за асабісты лёс

Раніцай наступнага дня пашыраны склад кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў тэрмінова вызвалі ў рэзідэнцыю прэзідэнта. Мы ўвайшлі ў агромністую залу і занялі месцы за круглым сталом. За нашымі спінамі стаялі людзі ў цывільным. Адзін з іх, мажны, шыракаплечы мужчына, загадаў закрыць рабочыя сшыткі, гаворку прэзідэнта не запісваць, і калі ў каго ёсць дыктафон, дык здаць яго ахоўнікам. Некаторыя афіцэры міліцыі пераглянуліся, дазволілі сабе загадкава ўсміхнуцца. Тым не менш патрабаванні незнаёмага выканалі ўсе.

Потым парог залы пераступілі дзяржсакратар Віктар Шэйман і першы намеснік міністра ўнутраных спраў Валянцін Агалец. Апошні расказаў аб тым, якія каманды будзе падаваць ён і што трэба рабіць прысутным, калі ў залу ўвойдзе Аляксандр Лукашэнка. Гэта таксама было новае ў службовых узаемаадносінах вышэйшага афіцэрскага складу, таму ніхто з генералаў, не кажучы пра палкоўнікаў і падпалкоўнікаў, не абмовіўся словам, не задаў ніводнага пытання.

Неўзабаве адчыніся дзверы. Аляксандр Рыгоравіч увайшоў мернай хадой, вялым узмахам рукі паспешна пасадзіў усіх на месцы, чым парушыў сцэнарый Агальца, і адразу абурыўся: "Дык што вы дазваляеце сабе?.. Чаму расце злачыннасць?.. Год таму вы прысягалі мне і абяцалі парадак. Дзе ён? Я пытаюся..."

Гаварыць з прэзідэнтам, згодна з распараджэннем Валянціна Агальца, маглі толькі намеснікі міністра, таму тыя пазіралі на яго, чакалі каманды. Але ён, не міргаючы глядзеў на Аляксандра Лукашэнку і, напэўна, успрымаў яго пытанні па-ваеннаму: маўчаць, пакуль канкрэтна не запытаюць. Маўчала і ўся зала.

Аляксандр Рыгоравіч вытрымаў паўзу, потым скіраваў погляд на папку з паперамі, якія ляжалі перад ім на стале, зачытаў некалькі статыстычных даных па негатыўнай аператыўнай абстаноўцы ў краіне. Калі пачаў чытаць пра нерацыянальнае і неэфектыўнае выкарыстанне фінансавых і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў міністэрства, ён зноў запытаўся ў прысутных: "Дык хто ж адкажа за гэта?"

Золата-маўчанне панавала ў зале. Здавалася, што афіцэры скамянелі, не жывыя, бо ніхто нічым, нават выпадковым рухам галавы ці павевам вачэй, не хацеў прыцягваць уедлівы погляд прэзідэнта. І толькі калі ён паўтарыў пытанне і глянуў на Валянціна Агальца, той падскочыў, адрапартаваў, што за фінансавы і матэрыяльна-тэхнічны напрамак у міністэрстве адказвае генерал міліцыі Тарабрын.

З-за стала падняўся Юрый Васільевіч. Вельмі паважаны генерал у міліцэйскім асяроддзі. Не будзе перабольшаннем, калі скажу, што яго ведалі як чалавека ад зямлі, які ўмеў годна размаўляць з людзьмі незалежна ад статусу, спачуваць і дапамагаць ім.

Прэзідэнт кінуў на яго разлютаваны позірк, пачаў агучваць "праблему" з нэмэтанакіраваным выкарыстаннем бюджэтных сродкаў канкрэтна. "Хто дазволіў табе распараджацца бюджэтнымі сродкамі па будаўніцтве катэджа для Захаранкі і куплі замежных машын для міліцыі? Хто, пытаюся? — горача паўтараў Аляксандр Лукашэнка, па сутнасці, не чакаючы ад Тарабрына адказу. — Ты ведаеш, у колькі абыдзецца іх рамонт? Ён будзе каштаваць у два, а мабыць, тры ці чатыры разы больш, чым сама машына. Што ты думаў, калі ставіў свой подпіс пад дакументамі? Маўчыш, бо нечага сказаць... І праўда, што ты ім скажаш, — Лукашэнка акінуў усіх жаласна-замілаваным позіркам, — калі ты яшчэ і адабраў у кожнага з іх зарплату... без дазволу... Вось хто забраў ад вашых сем'яў грошы, — ён выкінуў руку наперад і паказаў пальцам на генерала Тарабрына, потым дадаў: — Адхіліць ад пасады намесніка. Звольніць... неадкладна..."

Раззлаваны Лукашэнка шукаў вачыма Агальца.

Высокі, калі не за два метры ростам, Юрый Васільевіч маўчаў, нізка апусціўшы галаву. Яму б сказаць праўду прэзідэнту, можа б, ён больш засумняваўся ў тых, хто рыхтаваў ілжывую інфармацыю пра Захаранку і справы ў міністэрстве, але Тарабрына, як было бачна, ахапіў страх за асабісты лёс.

## Высмактаны з пальца крымінал

Што ж тычыцца высмактаных з пальца праблем нямэтанакіраванага выкарыстання бюджэтных сродкаў, дык кожны з нас іх ведаў, як кажуць, да драбніц.

Першая з іх — "будаўніцтва катэджа для Захаранкі". На самай справе гэта быў рамонт ведамаснай двухпавярховай гасцініцы ў Ждановічах. Яна здаўна была на балансе міністэрства, але годных умоў для пражывання ў ёй наведвальнікаў не было. З прыходам у ведамства Захаранкі актывізавалася знешнеправавая дзейнасць ведамства з роднаснымі структурамі іншых краін. Месца для такіх сустрэч, апрача рабочага кабінета міністра, не было. Таму і было вырашана зрабіць рамонт у гасцініцы, які б дазволіў не толькі годна прымаць дэлегацыі, але і размяшчаць іх. Праект быў эканамічна абгрунтаваны, так як рассяленне дэлегацый у іншых гасцініцах каштавала шмат.

Другая праблема — закупка 184 аўтамабіляў "Opel" (нямецкі паліцэйскі варыянт) для аператыўных службаў і дарожнай міліцыі. Кіраўніцтву міністэрства прад'яўляліся прэтэнзіі наконт таго, што лепей было купіць расійскія аўтамабілі "Жигули" — гэтак было б разумней. Аднак служба тылу міліцэйскага ведамства разам са спецыялістамі знешнеэканамічнага ўпраўлення Міністэрства прамысловасці правялі тэндар па закупцы, пралічылі і прыйшлі да высновы, што больш выгадна закупіць аўтамабіль "Opel". Ён каштаваў 9 тысяч марак, значна танней, чым расійскі.

І, нарэшце, трэцяя прэтэнзія: кіраўніцтва ведамства забрала без дазволу зарплату ў работнікаў на "будаўніцтва катэджа" і закупку 184 аўтамабіляў "Opel".

Я прыпамінаю, як, здаецца, з Гомельскага ўпраўлення ўнутраных спраў, там, дзе пачынаў міліцэйскую кар'еру Юрый Захаранка, распаўсюдзілася ініцыятыва — аддаць абавязковы прэміяльны заробак на закупку аўтамабіляў і рамонт гасцініцы. Гэта было якраз у той час, калі рэзка паднялася зарплата, таму ніхто з работнікаў міліцыі, а ў калектывах гэта абмяркоўвалася, не абурыўся. Наадварот, захапляліся гамяльчанамі, землякамі міністра, што яны своечасова ініцыявалі карысную для практычных работнікаў міліцыі кампанію.

Падсумоўваючы вынікі даследавання сапраўдных абставін абвінаваўчай заявы ў адносінах да Юрыя Захаранкі, на падставе якой 16 кастрычніка 1995 года ён быў вызвалены ад пасады міністра ўнутраных спраў, даводзіцца канстатаваць, што доказаў яго вінаватасці ў здзяйсненні неправамерных выдаткаў бюджэтных сродкаў няма. Значыць, ён не вінаваты. Як паказаў час, яго дзеянні і клопат былі накіраваны на інтарэсы службы і грамадства ў цэлым.

Чаму ж так склалася сітуацыя, што замест прызнання і ўзнагарод Захаранку звольнілі са службы? Рашэнне прэзідэнта аб яго звальненні з пасады міністра ўнутраных спраў Юрый Мікалаевіч абгрунтоўваў такім чынам: *"Я б мог застацца дзеючым генералам беларускіх праваахоўных органаў, бо, уласна, ніхто і не перашкаджаў, мог змірыцца з абставінамі, слепа загнаць сваё сумленне пад казырок фуражкі і спачываць. Прынцыповасць абранай пазіцыі пры выбары варыянтаў паводзін падчас складаных жыццёвых сітуацый у многіх часта пераламляецца спачатку праз уласны страўнік, а затым ужо праз закон. Але, каб прыняць такое рашэнне, мне патрэбна было стаць сапраўдным нягоднікам.*

*Я не мог прыняць і курс на відавочнае ператварэнне органаў, прызначаных для барацьбы са злачыннасцю, аховы грамадскага парадку, у орган, гатовы па першым указанні расправіцца з непажаданымі палітычнымі апанентамі, Вярхоўным Саветам або Канстытуцыйным судом. Занадта відавочныя для ўсіх разважлівых людзей наступствы гэтага кірунку. Таму ў найбольш крытычны момант я заявіў аб вернасці Канстытуцыі, заява была надрукавана ва ўсіх цэнтральных газетах. Наступствы гэтага былі для мяне відавочныя.*

*Я не мог прыняць пазіцыю "браняволй" абароны асоб з бліжэйшага атачэння прэзідэнта, у адносінах да якіх пачала паступаць інфармацыя аб злоўжыванні службовым становішчам альбо аб сумнiўных знаёмствах. Яна выклікала падазрэнні, патрабавала дэталёвай праверкі.*

*Мая пазіцыя простая: я за дыктатуру! Але дыктатуру Канстытуцыі і законаў краіны".*

Несумненна, што прынцыповая пазіцыя міністра ўнутраных спраў аб роўнасці ўсіх перад законам не задавальняла многіх дзяржаўных чыноўнікаў. Асабліва хваляваліся тыя, хто быў перакананы *"ў сваім божым прызначэнні стаяць над законамі".* Ім гэткія правілы жыцця былі не патрэбныя. Таму ва ўладных калідорах пачала фарміравацца і распаўсюджвацца думка, што міністр ненадзейны. Яму нельга давяраць. Больш таго, некаторыя прыйшлі да высновы, што гэткі міністр для іх небяспечны.

Захаранка спадзяваўся на падтрымку грамадскай большасці, але яна, як вядома, была неразваротлівай. Людзі пралічвалі меркантыльна-практычныя крокі наперад і згаджаліся з сітуацыяй, няхай сабе незаконнай і несправядлівай, бо лічылі, што лезці на ражон неразумна, лепш прытрымлівацца ўласных правіл, пабудаваных па прынцыпе "мая хата на абочыне, мяне бяда не кране". Аднак у жыцці такое вельмі рэдка бывае. З цягам часу бяда прыходзіць і гучна стукае абцасамі ў дзверы.

Ці разумеў Юрый Мікалаевіч, што яго службовая прынцыповасць да вышэйстаячых чыноўнікаў можа істотна паўплываць на жыццё родных, блізкіх і ўласны лёс? Безумоўна! Чаму тады не спыніўся, не прыстасаваўся да тых умоў, патрабаванняў і жаданняў, якія сыходзілі з вышэйшых уладных інстанцый? Захаранка-юрыст не мог гэта сабе дазволіць, нават калі б ведаў, якая рэальная небяспека пагражае яго жыццю.

## Тры святыні

У адным з інтэрв'ю ён прызнаецца: *"Чалавека, у прыватнасці, міністра Захаранку, можна адлучыць ад выканання абавязкаў ці ўвогуле ліквідаваць, але праўдзівая гарантыя бяспекі закладзена не ў асабістай ахове або бронекамізэльцы, а ў нязменнасці і цвёрдасці ўзятага курсу".*

Распавядаючы журналісту пра небяспечнасць знаходжання чалавека паміж двух агнёў (злачыннасцю і асобамі ў вышэйшых уладных структурах, якія імкнуліся дэстабілізаваць сітуацыю ў ведамстве. — **Аўтар**), Юрый Мікалаевіч скіроўвае ўвагу чытача не на ўяўную гарантыю бяспекі чалавечага жыцця (уласная ахова або бронекамізэлька), бо яна ненадзейная, а на сапраўдную — нязменную цвёрдасць курсу ў пабудове і станаўленні прававой краіны. Менавіта такой і бачыў Захаранка ў будучым сваю Айчыну, таму неаднойчы паўтараў: для мяне як грамадзяніна Беларусі ёсць тры святыні —Канстытуцыя, законы краіны, Айчына.

Да апошняй хвіліны разам з Захаранкам-міністрам заставаліся яго сябры, калегі-прыхільнікі прагрэсіўнай ідэі, праўдзівага прынцыпу жыцця. Аднак Юрый Мікалаевіч свядома адмовіўся ад канкрэтнай дапамогі, не захацеў уцягваць нікога ў супрацьстаянне з уладай.

За час знаходжання на пасадзе міністра ў яго не было ніводнага выхаднога дня. З вызначанага ўдалося зрабіць прыкладна дзве трэці. Дзякуючы яго натхнёнаму запалу зрабіць як мага больш за кароткі прамежак часу ўдалося раскруціць рухавік міліцэйскай сістэмы да абаротаў, якіх іншым міністрам не ўдавалася дасягнуць за апошнія семдзясят савецкіх гадоў. Калі б рэфармаванне структуры органаў унутраных спраў яму ўдалося давесці да лагічнага завяршэння, то, безумоўна, вынікі былі б вельмі ўражальнымі. Гэтак жа працавалі яго намеснікі і ўся каманда.

У апошні працоўны дзень яму паведамілі, што нямецкі ўрад выканаў сваё абяцанне і выдзеліў больш за тры мільёны дойчмарак на тэхнічнае абсталяванне падраздзяленняў і органаў унутраных спраў Беларусі. Ведамствы краін збіраліся ствараць адзіную інфармацыйную сістэму, якая б дазволіла ім карыстацца новымі магчымасцямі барацьбы са злачыннасцю. Да прыкладу, на працягу некалькіх секунд перакрываць тэрыторыі краін ў выпадку атрымання паведамлення пра крадзеж транспарту. Як краіны Заходняй Еўропы, так і Беларусь былі ў гэтым зацікаўлены, паколькі аператыўныя звесткі на іх тэрыторыях адразу траплялі б у банкі даных, што спрыяла б хуткаснаму раскрыццю гэтых злачынстваў.

Распачалася таксама рэалізацыя праграмы ААН па барацьбе з наркотыкамі, пад якую атрымалі паўмільёна долараў. Да беларускіх міліцыянераў прыехалі спецыялісты Інтэрпола для ўсталявання тэхнічных сродкаў сумеснага бюро — гэта яшчэ 60 тысяч долараў беларускаму міністэрству. Пачалі наладжвацца кантакты са Скотланд-Ярдам, іншымі аналагічнымі ведамствамі.

Вытокі любога злачынства ў першую чаргу Захаранка разглядаў з пункту гледжання маральна-этычных аспектаў, так як лічыў іх першапрычынай у папярэджанні правапарушэнняў, і толькі пасля гэтага звяртаў увагу на крымінальную статыстыку.

Да злачынстваў ставіўся як да сацыяльнай з'явы, прапанаваў і патрабаваў не "змагацца" з ёй, а супрацьстаяць, прычым не асобнымі пастановамі і рашэннямі, а дзяржаўнымі праграмамі, так як лічыў, што "нельга будаваць будынак на пяску, бо спачатку патрэбна змайстраваць падмурак".

...З будынка Міністэрства ўнутраных спраў упэўнена-рашуча выйшаў высокага росту, шыракаплечы мужчына. З годна паднятай галавой ён шпарка перайшоў па пешаходным пераходзе вуліцу, упэўнена ступіў на выкладзены шэрай пліткай тратуар і смела накіраваўся ўніз да крывавых берагоў Нямігі.

Пра што думаў чалавек, куды ішоў — ніхто не ведаў. Здагадваліся толькі тыя, хто праводзіў яго журботнымі позіркамі з вокнаў службовай будыніны. Хутчэй за ўсё, ён спачатку параіцца з жонкай і дзецьмі пра будучыя жыццёвыя крокі, потым паедзе да маці ў родныя Васілевічы, што на Гомельшчыне. Так рабіў раней, калі млела і шчаміла душа, калі сэрца, у якім жыла любоў і спагада, сціскалася, плакала, разрывалася ў роспачы ад нялюдскай жорсткасці, ад несправядлівасці; калі ад неймавернага болю даводзілася безгалоса крычаць і маліць Бога аб міласэрнасці.

Спагадлівыя матуліны вочы, пяшчотныя рукі, гаючыя словы лячылі, баранілі, натхнялі яго — незаспакоенага, неабыякавага, няўрымслівага на самаадданае служэнне Бацькаўшчыне.

Цягам часу постаць мужчыны паступова пачала зліваццa ў гарадскім разамлелым міражы з іншымі людзьмі, потым зусім *знікла* з поля зроку.

Гэта быў *ЧАЛАВЕК* — са своеасаблівым мысленнем, рызыкоўным характарам, адметным тэмпераментам. Ён быў незаменным у той жыццёвай сітуацыі, калі патрабавалася новая свежая ідэя, натхнёны першасны імпульс, самаадданасць у працы.

***...У яго быў выбар.***
***Служыць Гаспадару ці служыць Беларусі?***
***Тупа падпарадкоўвацца неабмежаванай волі таго, хто яго прызначыў міністрам, ці дзейнічаць строга ў рамках Канстытуцыі?***
***Ён застаўся адданым Беларусі і прыхільнікам Канстытуцыі.***
***Паплаціўшыся за гэта Жыццём.***

**КИНОПРЕМЬЕРА**

## Сериал Курейчика все-таки покажут на ТВ

*9 Мая по каналу "Россия" (а в Беларуси — по "РТР-Беларусь") состоится премьера многосерийного военного остросюжетного фильма "Военная разведка. Первый удар" по сценарию белорусского драматурга Андрея Курейчика. Военный боевик станет главной кинопремьерой канала в День Победы.*

Фильм снимался российскими кинематографистами в Санкт-Петербурге и Москве. Режиссером картины выступил Алексей Праздников.

8-серийный боевик охватывает первые недели Великой Отечественной войны: план захвата СССР "Барбаросса" в действии. Главные роли в фильме сыграли **Павел Трубинер, Филипп Азаров, Степан Бекетов, Сергей Кошонин и Борис Щербаков.**

*"Для меня это вторая военная картина. Первую — "Смертельную схватку" — тот же канал показал на День Победы 9 Мая, только два года назад,* — рассказал Андрей Курейчик. — *Думаю, для тех людей, которые интересуются Великой Отечественной войной, ветеранов, там будет много интересного".*

**Алина ВЕТРОВА.**

**ПОДЫУМ**

## «Міс Беларусь» забаронена... выходзіць замуж

*Юліі Скалковіч з вёскі Клейнікі Брэсцкай вобласці ўсяго 20 гадоў, але яна дасягнула статусу, аб якім марыць кожная "прынцэса". Да 2014 года Юлія будзе лічыцца самай прыгожай дзяўчынай краіны, бо сёлета атрымала тытул "Міс Беларусь".*



Варта заўважыць, што сярод 28 канкурсантак Юлія была самай ціхай. Безумоўна, арэол цнатлівасці і натуральнасці толькі падкрэсліваў прыгажосць студэнткі, будучага архітэктара.

Пасля самага хвалюючага моманту, калі былая "Міс Беларусь" **Людміла Якімовіч** перадала карону новай пераможцы, Юлія прызналася, што не чакала такога шчасця.

*"Кожная дзяўчынка марыць стаць каралевай, прынцэсай. Мая мара спраўдзілася ў 20 гадоў",* — выдыхнула дзяўчына.

Юлія атрымала не толькі тытул прыгажуні, але і грашовы прыз. Ёй далі 50 мільёнаў рублёў. Адразу ж пасля конкурсу ў сацыяльных сетках было шмат каментарыяў на гэты конт: маўляў, раней за прызавыя грошы можна было набыць калі не кватэру, дык машыну дакладна, а цяпер... Праўда, сама прыгажуня шчыра прызнаецца, што... не ведае, куды патраціць гэтую суму. Магчыма, нечаканыя грошы пойдуць на вяселле? Юлія прызналася, што даўно марыць аб белай сукенцы.

*"Вельмі хочацца як мага хутчэй стварыць сям'ю, таму што з маім маладым чалавекам мы ўжо даволі даўно,* — не хавала падрабязнасцяў асабістага жыцця Юлія Скалковіч. — *Ён зрабіў мне прапанову рукі і сэрца. Так што ўжо хочацца быць разам".*

Праўда, пабрацца шлюбам Юлія і яе жаніх змогуць толькі праз два гады. Справа ў тым, што, згодна з умовамі кантракта, "Міс Беларусь" не мае права права выходзіць замуж на працягу двух гадоў пасля конкурсу.

**ТЫМ ЧАСАМ**

## Таццяна Давыдзенка зачаравала публіку

*Сярод прафесійных мадэляў і людзей, звязаных з подыумам, існуе меркаванне: сапраўдную каралеву прыгажосці называе не журы, а гледачы.*

Такі погляд на падзеі любога конкурсу прыгажосці мае пэўную рацыю. Маўляў, простыя гледачы наўрад ці будуць неаб'ектыўнымі.

Тытул "Міс глядацкіх сімпатый" заваявала **Таццяна Давыдзенка** з Мінска. Яна перамагла па выніках смс-галасавання. У зале, дзе праходзіў фінал конкурсу, мінчанку таксама падтрымлівалі вельмі цёпла.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

**КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА**

## Хуліган падзякаваў мужчыну, які яго пасадзіў

Прычым удзячнасць, што амаль неверагодна, абсалютна шчырая!

Малады чалавек, які ўжо адбываў пакаранне ў калоніі, шчыра ўдзячны чалавеку, які зноў адправіў яго за краты. Як такое можа быць? Справа ў тым, што злодзея затрымалі, калі ён з малатком у руцэ ламіўся ў дом да пенсіянеркі. Быў п'яны і дрэнна памятае, што да чаго, прызнаецца затрыманы. Але ў адным гора-злодзей упэўнены — калі б не сусед старой, што скруціў юнака з малатком, магла б здарыцца бяда.

З-за кратаў жыхар Ліды напісаў грамадзяніну, які прыбег на дапамогу суседцы, пісьмо з падзякай. Маўляў, лепш адседзець за хуліганства, чым здзейсніць непапраўнае.

## Дзяўчына ледзьве не скінулася з даху школы

Дакладна не вядома, чаму 16-гадовая жыхарка Гродна хацела скончыць жыццё самагубствам

Адгаварыць дзяўчыну ад ракавога скачка атрымалася толькі ў псіхолага МНС. Размова праходзіла на даху, адно няправільнае слова — і магла здарыцца трагедыя. Але ў спецыяліста атрымалася суцешыць вучаніцу дзявятага класа і вывесці яе з небяспечнага стану.

Як узгадала класны кіраўнік дзяўчыны, яна размаўляла з падлеткам да прыезду выратавальнікаў. Педагог не можа назваць дакладнай прычыны такіх паводзін вучаніцы — гэта прафесійная таямніца. А вось аднакласнікі і сябры думаюць, што прычына нервовага зрыву — перанос аперацыі.

Год таму школьніцу збіла машына, дзяўчына атрымала цяжкія пашкоджанні. Выпадак выбіў падлетка з каляіны — яна займалася спортам, а з-за траўмы вымушана была кінуць любімы занятак.

## Пенсіянерка згарэла на свой дзень народзінаў

Калі ратавальнікі прыбылі да месца пажару ў вёсцы Загор'е, дах і перакрыцці ўжо абваліліся.

Выратаваць тых, хто знаходзіўся ў доме, не было шанцаў. Пад будаўнічымі канструкцыямі на месцы пажару знайшлі два трупы — гаспадыні дома, пенсіянеркі, і яе 74-гадовага сужыцеля.

Суседзі расказалі супрацоўнікам МНС, што напярэдадні жанчына адзначала сваё шасцідзесяцігоддзе. Магчыма, пажар узнік з-за неасцярожнасці падчас палення ў нецвярозым стане. Агонь разгуляўся так моцна, што знішчыў дах, перакрыцці, усю маёмасць і моцна пашкодзіў сцены дома.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

## Пуаре определился...

*Восьмикратный чемпион мира по биатлону Рафаэль Пуаре согласился возглавить мужскую сборную Беларуси.*



Наша газета сообщала, что некоторое время назад француз приезжал в Минск, где провел переговоры с руководством Белорусской федерации биатлона. Предварительно стало известно, что в прошлом именитый спортсмен дал согласие возглавить сборную Беларуси, подписание контракта намечено на 14 мая.

— Пуаре не один приезжал, он взял с собой хорошего личного менеджера, — цитирует pressball.by руководителя Белорусской федерации биатлона и председателя КГБ **Вадима ЗАЙЦЕВА**. — И какие у гостей дополнительные интересы — я пока тоже не могу вам сказать. Может, у них свое видение участия в инвестиционном климате Республики Беларусь. Все-таки у Пуаре есть доля в гостиничном бизнесе. И его бизнесом занимается этот менеджер, который, собственно, и ставил нам все условия. Он говорил: "Пуаре — это имя, это бренд". Я в ответ: "Хорошо, у нас тоже КГБ — это бренд..." Вот видите, человек приезжает с профессиональным управленцем.

**— Если Зиберт после Сочи уйдет из женской команды, то планируется поставить работать наших тренеров. А что будет после Пуаре? Его напарник просто не успеет к Олимпиаде достичь такого уровня, чтобы мы были более-менее спокойны за мужскую сборную.**

— Да, сложно рассчитывать на резкий рост за полтора года... Не могу однозначно говорить, потому что мне непонятны до конца намерения Пуаре. Почему? Контракт только к Олимпиаде.

**— Чье это условие?**

— Нет-нет, это прозвучало не жестко и не утвердительно, а просто в спокойном тоне, рассудительно он сказал: "Давайте к Олимпиаде поработаем вместе". Конечно, есть рассуждения и информация, что его цель — вернуться в большой европейский биатлон через какие-то значительные результаты на Олимпийских играх. Может быть, это причина. По крайней мере, это перерыв в бизнесе, он хотел бы вернуться назад в биатлон. И, естественно, ему было бы более комфортно тренировать национальную команду во Франции, в Норвегии, чем в Беларуси.

**— А инициатива была чья?**

— Приглашали мы... Ну, видите, многие заинтересованы сегодня попробовать силы в Беларуси не только в сфере спорта.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ:*

# «На Алімпіяду мне трэба яшчэ патрапіць»

*Сярэбраны прызёр Алімпіяды-2008 па кіданні молата Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ распавёў Народнай Волі" аб тым, ці вярнулі яму і Івану Ціхану паўмільёна долараў і як допінгавы скандал паўплываў на падрыхтоўку да Гульняў у Лондане, якія пройдуць гэтым летам.*

Нагадаем, што ў жніўні 2010 года беларускім кідальнікам молата Вадзіму Дзевятоўскаму і Івану Ціхану ва ўрачыстай абстаноўцы вярнулі алімпійскія медалі Пекіна-2008, з якімі спартсмены былі вымушаны развітацца на час суда з Міжнародным алімпійскім камітэтам, які абвінаваціў атлетаў у прымяненні допінгу.

Дзевятоўскі і Ціхан выйгралі справу, якая цягнулася са жніўня 2008 года, калі спартсменам былі абвешчаны станоўчыя вынікі іх допінг-проб, узятых на Алімпіядзе ў Пекіне. Але атлеты не пагадзіліся з абвінавачваннямі і вырашылі даказаць сваю невінаватасць.

Вердыкт Спартыўнага арбітражнага суда ў Лазане, дзе атлеты аспрэчвалі рашэнне дысцыплінарнай камісіі МАК аб пазбаўленні іх алімпійскіх медалёў, быў на карысць беларусаў. Сярэбраная ўзнагарода Вадзіма Дзевятоўскага і бронза Івана Ціхана ў кіданні молата засталіся за нашымі спартсменамі.

**— Вадзім, якімі былі для вас гэтыя чатыры гады — ад Алімпіяды ў Пекіне да Гульняў, якія хутка распачнуцца ў Лондане?**

— Вельмі складанымі і, сказаў бы так, рознакаляровымі. Натуральна, што судовыя разбіральніцтвы, якія працягваліся амаль два гады, забіралі шмат сіл, нерваў, грошай. Усё ж гэта не праходзіць проста так. З іншага боку, нас апраўдалі, што ўжо не можа не радаваць. Аднак нават пасля перамогі спатрэбіўся пэўны час, каб ураўнаважыць псіхалагічны стан, увайсці ў рабочы рытм. Усё гэта вельмі няпроста.

**— Колькі грошай было патрачана, каб дамагчыся справядлівасці?**

— На суды патрачана прыкладна паўмільёна долараў.

**— Свае грошы таксама давялося ўкладваць?**

— Безумоўна, у той сітуацыі іншага выйсця не было. Як кажуць — пан альбо прапаў. Праўда, пасля падключыўся спонсар, таварыства "Дынама" добра дапамагло, за што ім шчыра ўдзячны.

**— А ці ёсць шанц вярнуць усе гэтыя выдаткі?**

— Скажам так, пытанне разглядаецца нашымі адвакатамі, каб падаць сустрэчны іск. Але працэдура дастаткова складаная. Напрыклад, у Амерыцы вярнуць гэтыя грошы было б прасцей, а ў Швейцарыі іншае заканадаўства. Акрамя таго, калі яшчэ і напярэдадні Алімпіяды думаць аб такіх рэчах, як вяртанне грошай, то на падрыхтоўку да Гульняў часу зусім не застанецца. Так што гэта, магчыма, пытанне будучыні.

**— Ці моцна паўплываў скандал асабіста на вашу падрыхтоўку да Алімпійскіх гульняў?**

— Разумееце, калі скажу, што моцна, то нехта можа падначыць: маўляў, Дзевятоўскі сабе саломку зараней падсцілае на выпадак, калі вынікі будуць слабымі. Але і казаць, што скандал ніяк не адбіўся на нашай з Іванам падрыхтоўцы, таксама было б глупствам. Я нікому не пажадаў бы апынуцца ў такой сітуацыі. Магчыма, не так цяжка вярнуць фізічную форму, як стабільны маральны стан...

**— Сёння канкурэнцыя ў кіданні молата ў свеце вялікая?**

— Я ведаю ўсіх асноўных канкурэнтаў, сачу за іх выступленнямі. Магу зазначыць, што рэальна на алімпійскія медалі сёння прэтэндуюць у кіданні молата 7—8 атлетаў. Вось і мяркуйце самі — вялікая гэта канкурэнцыя ці малая.

**— Для сябе нейкія задачы на Гульні вы ўжо вызначылі?**

— Па-першае, я яшчэ не патрапіў на Гульні, бо нават у беларускай зборнай дастаткова канкурэнтаздольныя атлеты. А на Алімпіяду паедуць толькі тры спартсмены. Таму напярэдадне старты, буду старацца на іх паказаць вынік. У ліпені ўсё стане вядома.

**Алесь СІВЫ.**





МАЗАІКА

## Гурэнка пайшоў у адстаўку

*Футбольны клуб "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) скасаваў кантракт з 39-гадовым галоўным трэнерам Сяргеем Гурэнкам "паводле пагаднення бакоў".*

Гурэнка, адзін з вядучых у мінулым гракоў нацыянальнай зборнай Беларусі, узначаліў жодзінскую каманду 26 ліпеня 2010 года. У тым сезоне "Тарпеда-БелАЗ" заняло 11-е месца і захавала прапіску ў вышэйшай лізе толькі ў пераходных матчах. У сезоне-2011 клуб быў шостым, а пасля сямі гульняў цяперашняга першынства замыкае турнірную табліцу.

Пакуль абавязкі галоўнага трэнера будзе выконваць Вадзім Бразоўскі, які трэніраваў дубліруючы склад.

## Сяміразовыя!

*Гандбалісты мінскага СКА ў мінулыя выхадныя заваявалі Кубак Беларусі.*

У фінале мінчане перамаглі Брэсцкі гандбольны клуб імя Мяшкова — 31:30.

Мінскі СКА ў сёмы раз выйграў Кубак і абышоў па колькасці кубкавых перамог брэсцкую каманду, у якой шэсць заваяваных трафеяў. Акрамя БГК і СКА ў Кубку перамагалі мінскія "Аркатрон" (тройчы), БДАФК і "Дынама".

БГК імя Мяшкова ў год свайго дзесяцігоддзя наогул застаўся без узнагарод, саступіўшы чэмпіёнства мінскаму "Дынама", а Кубак — СКА.

ПО ПОВОДУ

## И жизнь — как вечный бой...

*Накануне Дня Победы я долго перебирал в памяти тех спортсменов, кто в годы Великой Отечественной войны вел смертельный бой с фашистами... Многие из них, к сожалению, уже ушли из жизни. Но память о них живет.*



Среди таких и воин-спортсмен Владимир Львович Коган, который в годы лихолетья, будучи воздушным стрелком на бомбардировщике, совершил 140 боевых вылетов! Он защищал небо Москвы, а в конце войны участвовал в бомбежке Берлина. Коган награжден многими орденами и медалями.

После окончания войны он вернулся на ринг и провел в нем тоже 140 боев, а в 1949 году стал чемпионом СССР.

Владимир Львович состоялся как тренер. Тренер с большой буквы. На первой Спартакиаде народов СССР возглавлял сборную нашей республики. В состав той сборной входили и многие именитые его ученики. В их числе и Алексей Засухин, который тоже стал чемпионом СССР. За большие спортивные заслуги Владимиру Когану было присвоено звание заслуженного тренера Советского Союза. Да, его жизнь — действительно как вечный бой...

Еще при жизни Владимир Львович в беседе с автором этих строк (мы много лет работали в "Динамо") как-то сказал: "Мне кажется, что в своем служении стране и в армии, и в спорте я, видимо, могу быть примером для молодежи". Беру на себя смелость утверждать, что он — образец для многих поколений.

Владимир Львович, к большому сожалению, ушел из жизни, но его благородные дела продолжают жить. Уверен, что этого настоящего человека, воина и спортсмена всегда будут помнить. А пока помнят — человек живет...

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер БССР.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

*Эдуард ЗАНКАВЕЦ:*

# «Шанцы ў беларускай зборнай застаюцца»

*На чэмпіянаце свету па хакеі, які гэтымі днямі праходзіць у Швецыі і Фінляндыі, беларуская каманда першыя дзве гульні прайграла.*

Напачатку беларусы саступілі зборнай Фінляндыі з футбольным лікам — 0:1. А ў мінулую нядзелю беларуская каманда прайграла і швейцарцам — 2:3. Варта адзначыць, што з групы, у якой прымаюць удзел восем каманд, працягнуць барацьбу за вышэйшыя месцы толькі чатыры зборныя. Пакуль беларусы на 6-м месцы і напярэдадзе матчы з камандамі Казахстана (8 мая), ЗША (10 мая), Славакіі (12 мая), Францыі (14 мая) і Канады (15 мая).

— Мне здаецца, што зборная Беларусі глядзіцца даволі нядрэнна ў плане выканання гульнявой дысцыпліны, — аптымістычна аналізуе пачатак сусветнага першынства былы галоўны трэнер беларускай каманды **Эдуард ЗАНКАВЕЦ**. — Нягледзячы на тое што два матчы прайгралі, не хацеў бы кідаць камень і ў бок нашага варатара Віталя Коваля. Каб не ён, то ўсё магло закончыцца значна горш. Іншая справа, што нам трэба больш востра ў атацы гуляць, бо, як вядома, калі не забіваеш ты, то заб'юць табе.

**— На ваш погляд, ці ёсць шанц у беларускай каманды патрапіць у васьмёрку мацнейшых пасля двух паражэнняў?**

— Безумоўна. Давайце пакуль не рабіць негатыўных высноў, бо каманды яшчэ правядуць па пяць гульняў у групе. Ніхто не ведае, які будзе расклад на фінішы. Адзінае, што славакаў трэба абавязкова перамагаць. Да таго ж не трэба раней часу складваць лапкі перад гульнямі з амерыканцамі і канадцамі. Акрамя таго, у зборную могуць прыехаць браты Касціцыны з НХЛ, а гэта будзе вельмі сур'ёзная дапамога.

**Алесь СІВЫ.**

### З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

***Кары ХЕЙКІЛЯ,*** *галоўны трэнер зборнай Беларусі:*

— Пачатак матча са швейцарцамі быў падобны на гульню з камандай Фінляндыі. Гэта відавочны негатыў. Але, як і раней, у другім перыядзе мы пачыналі дзейнічаць куды больш востра. Трэці перыяд наогул аказаўся па статыстыцы лепшым у нашым выкананні. Мы мелі шмат шанцаў вызначыцца, але, на жаль, за нас гэта зрабіў сапернік. І ўсё ж такі мы прагрэсуем.

**— У чым прагрэс?**

— Зараз мы ўжо дзве шайбы закінулі і прэсінгавалі добра. Хоць заўсёды хочацца большага...





ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Как и где отдохнуть летом?

*Специалисты отмечают на рынке туристических услуг заметное оживление. Туроператоры надеются, что в отличие от прошлого года, когда из-за кризиса многим пришлось отказаться от курортов и моря, в этом сезоне белорусы проведут отпуска вне дома.*



— Можно ли сегодня найти предложения комфортного и бюджетного отдыха?

— Отдых на море: какие есть предложения?

— Какие направления у туристов пользуются спросом в этом году?

— Где лучше всего отдохнуть с семьей и детьми?

— Какой отдых предлагают в пансионате "ЛОДЭ"?

На вопросы читателей "Народной Воли" ответит **начальник отдела туризма ООО "ЛОДЭ" Наталья МАКЕЙ**.

Звоните **15 мая с 15.00 до 17.00 по телефону: 328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nv@promedia.by с пометкой "Прямая линия".

КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі**: 6.Спадчынная спецыяльнасць Я.Гавелія, польскага астранома, кіраўніка горада Гданьска. 9.Хто з вялікіх беларусаў адлюстраваў на карціне цырульню ў Лёзне? 10.Што на Магілёўшчыне вызначалася братчынай па паслядоўнасці прымання аднавяскоўцамі "мірской" свечкі? 11.Даўней на Беларусі лепшы гатунак гарэлкі; спачатку ўжываўся як аптэчны сродак. 12.Беларускі праваабаронца, афіцыйна зарэгістраваны кандыдатам на Нобелеўскую прэмію. 13.Балгарскі горад, дзе адбылася вялікая бітва: супраць асмана-турэцкага войска змагалася армія хрысціянскай Еўропы. 19.Залічэнне К.Тураўскага праваслаўнай царквой у святыя. 22.Змяншэнне актыўнасці гродзенскіх мануфактур пасля адхілення ад каралеўскіх пасад старасты гэтага горада А.Тызенгауза. 23.Берасцяны музычны інструмент, адроджаны гуртом "Стары Ольса". 24.Англійскі класік, мог пісаць толькі тады, калі ў ручку было заліта чарніла чорнага колеру. 25.Агародніна, якую першы імператар Кітая Шы Хуанг-Ці вымочваў у віне і карміў ёю рабоў. 26.Дзіцячы часопіс, дзе працаваў Г.Бураўкін. 27.Танец, прызнаны ААН часткай сусветнай культурнай спадчыны. 29.Жывёліна, якую раней трымалі ўсе акцёры і супрацоўнікі тэатра, бо лічылі, што яна прыносіць поспех. 31.Якую неабходную рэч для журналістаў прыдумаў М.Твен? 32.Няволя, у якую трапіў полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч пасля бітвы на Нямізе ў 1067 годзе. 36.Белахвостая, вельмі рэдкая, самая буйная драпежная птушка беларускай фаўны. 39.Які царкоўны абрад прайшла Еўфрасіння Полацкая ў юнацтве? 42.Што ў даўнія часы будавалі нашы продкі, каб бараніцца ад ворагаў? 43.Старадаўняя тоўстая кніга вялікага фармату. 44.Легендарны герой Беларусі, што ў небяспечных кропках вывешвае бел-чырвона-белы сцяг. 45.Гаспадарчае начынне са срэбра для ежы, якое бралі з сабой дваранскія юнакі, калі ішлі служыць у армію, каб спасацца ад інфекцыйных хвароб. 46.Міфічны хатні добры або злы дух, яго частуюць кісялём на Уласа.

**Па вертыкалі**: 1.Моцная гарэлка; мільёны яе дэкалітраў у знакамітых шатландскіх вінных склепах ахоўваюць гусі. 2.Самы карысны для дам усходні ласунак. 3.Слуп, на якім на судне рыбакі прыбіваюць падкову ў мэтах бяспекі. 4.Чыгуначны пуць з дзвюх паралельных рэек. 5.Паэтка з Берасцейшчыны, пра якую Ніл Гілевіч сказаў: "Вы — Ніна Святланосная". 7.Уладар Шклова генерал-лейтэнант С.Зорыч як асоба, якой спрыяла імператрыца Кацярына II. 8.Працаўнік страхавой кампаніі. 11.Металічнае пакрыццё паверхні абразоў. 14.Травяністая расліна з рэзкім пахам; яе скарысталі для атручвання Сакрата. 15.Якая пасудзіна з гарбуза выкарыстоўвалася перуанцамі ў "тэлефоне" каля 1000 гадоў таму? 16.Сакрэт, які ўпарта захоўваўся кітайцамі адносна вырабу гарбаты? 17.Што не раскрые англічанін на парозе свайго дома, каб не наклікаць у хату бяду? 18."Гетман-кларнет" як жартоўнае імя Міхала Казіміра Агінскага, на што ён не крыўдзіўся. 19.Чарцёж будовы зямной кары Еўразіі, распрацаваны беларускім вучоным-геатэктонікам Р.Гарэцкім. 20.Маленькая мяккая круглая шапачка без аколышка. 21. Паўднёвы фрукт, на які падобны плод дрэва гінкга, пасаджанага ў Гомельскім парку князямі Паскевічамі. 28.Камень, што прыносіць шкоду гаспадару, калі думкі яго нячыстыя. 30.Востраў у Міжземным моры, дзе ўпершыню пачалі браць плату за стаянку ў порце. 33.Што, як лічыцца ў свеце, кепска арганізавана ў парыжскім аэрапорце "Шарль дэ Голь"? 34.Насякомае, якое скача, стракоча крыламі, слухае пярэднімі лапкамі. 35.Частка дрэва, па якой грукаюць гаршком з вараным гарохам, каб перадаць пладаноснасць бабовай расліне. 37.Авіяцыйная прылада, створаная эксперыментальнай групай пад кіраўніцтвам нашага земляка С.Косберга. 38.Вялікі камень з надпісам, устаноўлены Міхалам Клеафасам Агінскім свайму гувернёру ў сядзібным парку Залесся. 40.Вядомы беларускі футбаліст і таленавіты трэнер. 41.Дзяржава, у якой у даўнія часы карысталіся манетамі з крышталікаў солі.

**Ала АДАМАЙЦІС.**

*Адказы на крыжаванку:*

**Па гарызанталі:** 6.Півавар. 9.Шагал. 10.Чарга. 11.Аквіта. 12.Бяляцкі. 13.Варна. 19.Кананізацыя. 22.Заняпад. 23.Труба. 24.Кіплінг. 25.Капуста. 26."Вожык". 27.Танга. 29.Кошка. 31.Блакнот. 32.Палон. 36.Арлан. 39.Пострыг. 42.Замак. 43.Фаліянт. 44.Мірон. 45.Посуд. 46.Дамавік.

**Па вертыкалі:** 1.Віскі. 2.Халва. 3.Мачта. 4.Каляя. 5.Мацыш. 7.Фаварыт. 8.Агент. 11.Аклад. 14.Балігалоў. 15.Біклага. 16.Тайна. 17.Парасон. 18.Мянушка. 19.Карта. 20.Ярмолка. 21.Абрыкос. 28.Алмаз. 30.Тарыф. 33.Транзіт. 34.Конік. 35.Ствол. 37.Насос. 38.Валун. 40.Гарай. 41.Кітай.

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 7.05.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28010 экз. Заказ №1986.**